# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

20 сакавіка 1998 г. пятніца, № 65 (23416)




## НА «ЛЕТНІ» ЧАС

Служба часу Дзяржстандарта паведамляе, што ў адпаведнасці з Пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 317 ад 13 мая 1996 г. «Аб змяненні парадку вылічэння часу на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь», у рэспубліцы 29 сакавіка 1998 года ў 2 гадзіны будзе ажыццёўлены пераход на «летні» час пераводам стрэлак гадзіннікаў на адну гадзіну наперад.

# РОЗГАЛАС

*ЦЭНЫ*

## КОЛЬКІ КАШТУЕ ТЭЛЕГРАМА Ў ЗАМЕЖЖА?

Тарыфы на міжнародныя размовы за хвіліну выглядаюць наступным чынам. Азербайджан — 14.300 рублёў, Арменія, Грузія, Казахстан, Кыргызстан, Узбекістан — 11.400 рублёў, Малдова — 10.000 рублёў, Расія (Еўропа) — 9.700, Расія (Азія) — 10.200, Таджыкістан, Туркменія — 12.100 рублёў, Украіна — 7.200, Латвія — 17.700, Літва — 16.100, Эстонія — 15.200. Пагаварыць з Польшчай каштуе за хвіліну 16.100 рублёў, з Германіяй — 22.800, Францыяй — 22.800, Албаніяй, Андоррай, Вялікабрытаніяй, Грэцыяй, Ірландыяй, Ісландыяй, Кіпрам — 27.600 рублёў. З астатнімі краінамі Еўропы кошт хвіліны складае 20.700 рублёў. Пагаварыць з Канадай каштуе 50.600 рублёў, ЗША — 50.600, Ізраілем — 51.800 рублёў.

Тарыфы на міжнародныя тэлеграмы за слова такія: Арменія, Грузія, Казахстан, Малдова, Расія, Узбекістан, Украіна — 2.420 рублёў. Балтыя, Еўропа — 5.200, Азія — 7.500, Афрыка, Аўстралія — 8.600, Амерыка — 9.300 рублёў.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ЦІКАВАСЦЬ ДА ДЗЯРЖАЎНЫХ КАШТОЎНЫХ ПАПЕР ПАВЯЛІЧВАЕЦЦА

З гэтага года ў Беларусі на Міжбанкаўскай валютнай біржы пачала функцыянаваць сістэма па гандлю дзяржаўнымі каштоўнымі паперамі. Цяпер іх купляць і прадаваць інвестары могуць штодзённа па рэальных цэнах, што складваюцца на рынку.

Як паведамілі БЕЛТА ва ўпраўленні інфармацыі Нацбанка рэспублікі, у лютым у параўнанні са студзенем колькасць здзелак павялічылася амаль у пяць разоў, а ў першай палове сакавіка ў адносінах да папярэдняга месяца — больш як у дзесяць разоў. Гэта сведчыць аб узрастаючай цікавасці суб'ектаў гаспадарання да такога сегмента фінансавага рынку.

Пакуль што набыць каштоўныя дзяржаўныя паперы можна, калі звярнуцца ў банкі, якія прымаюць актыўны ўдзел у біржавым гандлі. Сярод іх Белзнешэканомбанк, Беларусбанк, Белбізнесбанк, Беларускі народны банк, Масбізнесбанк, Белгазпрамбанк, Пріорбанк і іншыя. Плануецца, што да пачатку наступнага года ўвесь гэты гандаль будзе ажыццяўляцца толькі праз Міжбанкаўскую валютную біржу, прычым кола яе ўдзельнікаў прадугледжваецца пашырыць.

**БЕЛТА.**

## КАЗАКІ ПРОСЯЦЬ ДАПАМОГІ Ў ЛУКАШЭНКІ

Сямірэчанскія казакі Кыргызстана падрыхтавалі вялікую чалабітную прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку, паведаміла кіргізскае агенцтва «Белы параход». Паводле слоў намесніка атамана казакоў Генадзя Бажэнава, яны страцілі надзею атрымаць матэрыяльную дапамогу ад расійскага кіраўніцтва, таму «апошняя надзея на бацьку Лукашэнку». Казакі спадзяюцца на пастаўкі сельгастэхнікі, а разлічыцца гатовы ўраджаем пшаніцы, буракоў і інш. Пакуль жа, паводле слоў Г.Бажэнава, араць прыходзіцца коньмі.

**БЕЛТА.**

### ТАВАРЫСТВА «БЕЛАРУСЬ -- ІРЛАНДЫЯ» ЎЗНАЧАЛІЎ СЫН ЯКУБА КОЛАСА

Гэта ўжо 34-е таварыства, якое працуе «пад дахам» Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. Яго арганізацыйны сход у Мінску, у якім бралі ўдзел таксама сябры з Ірландыі, адбыўся у дзень вельмі паважанага ў гэтай краіне Святога Патрыка.

-- Сход стаў лагічным працягам развіцця шматгадовых сяброўскіх сувязяў паміж людзьмі, якія аднойчы сустрэліся, зацікавіліся краінай сваіх новых знаёмых, яе гісторыяй, традыцыямі, мастацтвам і потым паступова палюбілі яе, -- адзначыў Арсен Ваніцкі, старшыня Беларускага таварыства дружбы.

Сябры, як вядома, пазнаюцца ў бядзе. У гэтым сэнсе ірландцы -- сябры вышэйшай, скажам так, пробы. Яны рэгулярна накіроўваюць на Беларусь значны аб'ём гуманітарнай дапамогі, у асноўным лекаў і медыкаментаў. Лік яе ідзе на дзесяткі тон.

Шмат беларускіх дзяцей з забруджаных радыяцыяй раёнаў, дзіцячых дамоў выязджалі ў Ірландыю на аздараўленне. Толькі летась там пабывала каля 1000 хлопчыкаў і дзяўчынак.

Старшынёй таварыства выбраны сын Якуба Коласа М. К. Міцкевіч, доктар фізіка-тэхнічных навук.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## СНАРАД У ЯКАСЦІ АРГУМЕНТА?..

Апошнім часам, калі знаёмішся з аператыўнымі зводкамі, узнікае ўражанне, што асобныя прадстаўнікі грамадства ўсур'ёз вырашылі ўзяць курс на ўзбраенне. Амаль няма таго дня, каб дзесьці ў рэспубліцы міліцыя не канфіскавала ў кагосьці зброю. Вось толькі некаторыя прыклады аднаго сакавіцкага дня.

У Віцебску супрацоўнікамі міліцыі затрыманы рабочы аднаго з кафэ. Пры асабістым даглядзе ў апошняга канфіскаваны нямецкі аўтамат часоў Вялікай Айчыннай вайны. Да таго ж на кватэры рабочага пры вобыску знойдзена вялікая колькасць патронаў да пісталета Макарава, затвор да кулямёта Дзегцярова і ствол вінтоўкі.

У Шчучыне нарад міліцыі быў выкліканы на кватэру нідзе не працуючага мясцовага жыхара: муж і жонка высвятлялі адносіны. Акрамя «салодкай» парачкі аператыўнікі знайшлі там жа... авіяцыйны снарад.

А ў Баранавічах супрацоўнікі крымінальнага вышуку «наткнуліся» на пенсіянерку і яе сына, бухгалтара адной з вытворча-камерцыйных фірмаў. У маці пры даглядзе было знойдзена каля 500 патронаў, якія, як яна растлумачыла, належаць яе сыну. Па гэтаму факту вядзецца разбор.

**Ігар ГРЫШЫН.**

*КРЫМІНАЛ*

### І дастаў старшына АМОНа пісталет...

Вечарам у кафэ кобрынскай гасцініцы «Беларусь» гулялі дзве кампаніі. Адной «запраўляў» старшына-амонавец, а другой — прапаршчык-кантрактнік.

У такіх выпадках «канкурыруючыя фірмы» не могуць ужыцца. Узнікла непаразуменне, і п'яныя пачалі высвятляць адносіны пры дапамозе кулакоў.

Усе падрабязнасці сутычкіі следчыя высвятляць, але тое, што яна закончылася трагічна, — гэта факт.

Старшына выхапіў пісталет і выстраліў у 23-гадовага прапаршчыка В. Васілюка. Смяротна паранены ў шыю хлопец памёр у шпіталі.

Высветлілася, што ў гэты вечар старшына не быў на службе. Але чаму тады пры ім была зброя?

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

### Стоп аматарам свежыны

Верагодна, «ад пуза» наеліся б свежыны пяцёра зладзеяў, якія ўкралі ноччу з калгаснай фермы ў в. Ельня Шчучынскага раёна дзвюх свіней.

Ды толькі нечакана «чырвоны ліхтар» перад імі запалілі інспектары ДАІ Гродзенскага УУС. Было амаль 5 гадзін раніцы, калі супрацоўнікі стацыянарнага паста ДАІ на дарозе Мінск—Гродна заўважылі, як легкавік нечакана звярнуў з шашы на палявую дарогу. Праследуючы «Мерседэс» яны спынілі яго і агледзелі ў багажніку тушы забітых свіней. Злачынцам нічога не заставалася, як падняць рукі ўгору.

**Георгій СЫСОЙ,**
**прэс-цэнтр Гродзенскага УУС.**

### Садыст у пагонах

Абвінаваўчым прыгаворам у выглядзе 4 гадоў пазбаўлення волі закончыўся разгляд крымінальнай справы, якую расследавала Мінская міжгарнізонная ваенная пракуратура ў адносінах да малодшага сяржанта в/ч 1259 В. Судом ён прызнаны вінаватым у тым, што, будучы камандзірам аддзялення ў ліпені-жніўні 1997 года, неаднаразова збіваў радавога В., здзекаваўся з яго, прымушаў адціскацца ў процівагазе, а таксама незаконна збіраў грошы для сваіх патрэб з курсантаў аддзялення..

**Аляксей ТАРАНАЎ,**
**прэс-цэнтр Пракуратуры Беларусі.**

## РАБАВАЛІ АДУКАЦЫЮ

Пракуратурай Хоцімскага раёна арыштаваны двое работнікаў Хоцімскага аддзела народнай адукацыі, якія абвінавачваюцца ў тым, што па папярэдняй змове за перыяд з 1986 па 1998 год прысвоілі 160 млн. рублёў.

## ІНФАРМАЦЫЯ АБ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЙ АБСТАНОЎЦЫ Ў КРАІНЕ З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

**Пры Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі створаны сем інфармацыйных груп, якія выязджаюць у рэгіёны рэспублікі для растлумачэння сацыяльна-эканамічнай абстаноўкі.**

Паводле звестак БЕЛТА, іх узначальваюць прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, першы віцэ-прэм'ер Пётр Пракаповіч, намеснік прэм'ер-міністра Уладзімір Замяталін, старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Мікалай Дамашкевіч, першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Уладзімір Русакевіч і намеснік Іван Пашкевіч. У саставе груп кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў краіны, адказныя работнікі Адміністрацыі Прэзідэнта і Савета Міністраў, рэдактары дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі.

## АБ'ЁМ ПРАМЫСЛОВАЙ ВЫТВОРЧАСЦІ Ў БЕЛАРУСІ Ў СТУДЗЕНІ-ЛЮТЫМ 1998 ГОДА СКЛАЎ 13,3 ПРАЦЭНТА ДА ЎЗРОЎНЮ СТУДЗЕНЯ-ЛЮТАГА 1997-га

За студзень-люты 1998 года рост аб'ёмаў прамысловай вытворчасці ў Беларусі склаў 13,3 працэнта ў параўнанні з аналагічным леташнім перыядам. Як сведчыць Міністэрства статыстыкі і аналізу рэспублікі, у бягучых цэнах за першыя два месяцы 1998 года выраблена прадукцыі на суму 83 316 мільярдаў рублёў.

Найбольш высокі рост меўся ў чорнай металургіі (134,3 працэнта да ўзроўню студзеня-лютага 1997 года), харчовай прамысловасці (130,3) і прамысловасці будаўнічых матэрыялаў (129,2 працэнта).

Спад вытворчасці дапушчаны ў паліўнай прамысловасці (на 14,1 працэнта) і ў электраэнергетыцы (1,6). На 1 сакавіка на складах прадпрыемстваў заставалася 28,8 працэнта прадукцыі ад аб'ёму, выработленага на пачатку гэтага года.

Рэнтабельнасць прамысловай вытворчасці ў студзені 1998 года дасягнула 9,7 працэнта супраць 6,5 у студзені 1997-га. Колькасць стратных прамысловых прадпрыемстваў знізілася да 25,8 працэнта ад іх агульнай колькасці (у першым месяцы мінулага года — 26,4). Пратэрмінаваная дэбіторская запазычанасць на 1 лютага 1998 года склала 19,6 трыльёна рублёў, пратэрмінаваная крэдыторская — 24,3 трыльёна.

**Сяргей СНЕГІН,**
**БелаПАН.**

## ДА ВЕДАМА ДЭПУТАТАЎ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Чацвёртая сесія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пачне сваю работу 2 красавіка 1998 года ў 10 гадзін у зале пасяджэнняў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь (Дом урада, Авальная зала).

Рэгістрацыя дэпутатаў праводзіцца 1 красавіка 1998 года з 12 гадзін у фае залы пасяджэнняў.

Прэс-цэнтр Палаты прадстаўнікоў праводзіць акрэдытацыю прадстаўнікоў беларускіх і замежных сродкаў масавай інфармацыі, якія зацікаўлены ў асвятленні работы чацвёртай сесіі.

*Акрэдытацыя праводзіцца ва ўстаноўленым парадку да 31 сакавіка.*

**Удакладненні можна атрымаць па тэлефоне 222-32-13.**

*ФОТАЭЛЕГІЯ* (Ф О Т А Э Л О В А)

**Яўген ПЯСЕЦКІ**

*Адкажыце, дубы, адкажыце, знямелыя гоні,*
*Дзе вы страцілі мову, дзе згубілі і песню і шэпт, —*
*Мо навекі скарыліся ў сцюжным, абрыдлым палоне,*
*Каб нямотай расчуліць здранцвелы ад холаду свет.*

*Марна! — гэты прасцяг столькі зведаў нясцерпнага болю,*
*Столькі бачыў бяды і манюю напоеных сноў —*
*Не абудзіцца ён ад слязіны знямелай таполі —*
*Трэба громам будзіць з вяршалін стогадовых дубоў,*

*Трэба лёзы маланак гукаць пераемнай замовай,*
*Веснавеі склікаць на сумёты зласлівай хлусні,*
*Адкажыце, дубы, як зглумілі адвечную мову,*
*Як навучыце новыя лісцейкі спевам вясны?*



**«ПЕСНЯРЫ» НА ПРОДАЖ**

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## УРАД ГАРАНТУЕ, ШТО АБВАЛЬНАГА РОСТУ ЦЭН НЕ БУДЗЕ — аб гэтым заявіў журналістам прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг

**Сітуацыя з нядаўнім абвалам беларускага рубля і спробамі павышэння рознічных цэн у сувязі з ім застаюцца ў цэнтры ўвагі беларускага ўрада. Яго кіраўнік Сяргей Лінг 18 сакавіка растлумачыў сваю пазіцыю па гэтых балючых пытаннях і расказаў аб кроках ўрада па стабілізацыі ўзнікшай сітуацыі.**

### Прычыны валютнай нестабільнасці

— У сувязі з няпростай сітуацыяй на фінансавым рынку ўрад і Нацыянальны банк вядуць вельмі напружаную работу па стабілізацыі становішча. Мы вельмі ўважліва прааналізавалі сітуацыю, ацанілі яе. Мы прыйшлі да адназначнай высновы, што гэта спланаваная атака на беларускі рубель... У мяне ствараецца ўражанне, што праціўнікі Саюза Беларусі і Расіі перайшлі з палітычнага поля, дзе яны прайгралі, на поле эканамічнае,— заявіў С. Лінг.

Але разам з тым прэм'ер прызнаў, што «мы многа самі стварылі ў сферы эканомікі такога, што паспрыяла гэтаму крызісу». Натуральна, што для такога крызісу меліся і аб'ектыўныя макраэканамічныя падставы.

Па-першае, С. Лінг зазначыў, што ўрад не змог дабіцца максімальнага вяртання валютнай выручкі ў краіну і памяншэння колькасці бартэрных аперацый. Нягледзячы на тое, што беларускі экспарт летась павялічыўся на 26 працэнтаў, паступленні валюты ад яго скараціліся на 15 працэнтаў. Многія прадпрыемствы павялічылі аб'ём бартэру ў сваім гандлі часам да 80 працэнтаў, што моцна скажае цэнавую палітыку і ўскладняе абстаноўку на фінансавым рынку. Па-другое, паступленне грашовых сродкаў, фінансаванне бюджэту адбывалася нераўнамерна, і часам гэтыя грошы станавіліся прычынай ціску на фінансавым рынку. Разам з тым Сяргей Лінг абверг выказванні аб тым, што беларускі ўрад «напампаваў» эканоміку пустымі грашыма. Паводле яго слоў, каэфіцыент манетарызацыі нашай эканомікі за мінулы год нават скараціўся з 8,8 да 8,3.

Па-трэцяе, Сяргей Лінг прызнаў, што Нацбанк Беларусі перад крызісам неправамерна пакінуў сваю актыўную работу на Маскоўскай міжбанкаўскай валютнай біржы і не змог уплываць на рост курса беларускага рубля там.

У цэлым прэм'ер станоўча ацаніў эканамічную сітуацыю ў нашай краіне за мінулы год і два месяцы сёлетняга. Паводле яго слоў, 95 працэнтаў выраблenай летась прадукцыі рэалізавана. Сёлета ж за першыя два месяцы зафіксаваны 12-працэнтны рост валавога ўнутранага прадукту, у тым ліку: 13,3 — у прамысловасці, 6,4 — у сельскай гаспадарцы, зафіксаваны 42-працэнтны рост капітальных укладанняў. Удалося перавесці многія прадпрыемствы на інтэнсіўны шлях развіцця і ў выніку, па словах кіраўніка ўрада, увесь прырост ВУП атрыманы за кошт росту прадукцыйнасці працы і без павелічэння расходу энерганосьбітаў. Адбылося нават памяншэнне энергаёмістасці ВУП на 8,2 працэнта. Такім чынам, як лічыць Сяргей Лінг, у эканоміцы адбываюцца пазітыўныя змены, змяншаецца колькасць стратных прадпрыемстваў, на 17 працэнтаў зменшылася дэбіторская і крэдыторская запазычанасць. За два месяцы гэтага года даходы бюджэту апярэджвалі расходы на 800 мільярдаў...

— Такім чынам, мы не зрабілі нічога такога, што спрыяла б фінансаваму крызісу, які адбываецца цяпер,— падкрэсліў Сяргей Лінг.

Аванс жа на развіццё сельскай гаспадаркі, які выдаецца з банкаўскіх рэсурсаў, па словах С. Лінга, цалкам вяртаецца хлебапрадуктамі па меры рэалізацыі збожжа. Апошнія 50 мільярдаў з мінулагодняга крэдыту былі вернуты ў студзені. Такім чынам, ён не мог так дэстабілізаваць валютны рынак.

### Захады па выпраўленню сітуацыі

Паводле слоў прэм'ера, на Маскоўскай біржы апошнім часам знаходзілася беларускіх рублёў на суму, прыблізна роўную 30 мільёнам долараў ЗША, а вось тавараабарот Беларусі і Расіі за мінулы год склаў 9 мільярдаў долараў. «Такі маленькі сегмент рынку ніяк не можа служыць нам эканамічным арыенцірам, каб усю палітыку ў эканоміцы мы будавалі ў залежнасці ад курса на гэтай біржы. Гэта было б неаб'ектыўна»,— зазначыў прэм'ер. Таму ўрад мяркуе зрабіць некаторыя радыкальныя захады на расійскім валютным рынку. У прыватнасці, мяркуецца перакрыць каналы паступлення беларускіх рублёў туды, альбо нават ўвогуле спыніць каціроўку беларускага рубля на Маскоўскай валютнай біржы.

Па-другое, як заявіў прэм'ер, у І квартале гэтага года ўрад цалкам адмаўляецца ад крэдытаў Нацбанка на пакрыццё дэфіцыту бюджэту. Важнай доўгатэрміновай задачай з'яўляецца памяншэнне імпарту, інтэнсіфікацыя экспарту і скарачэнне неабгрунтаваных вытворчых затрат і іншых расходаў. Гэта павінна ўрэшце скараціць дэфіцыт гандлёвага балансу, які з'яўляецца адным з асноўных курсаўтваральных фактараў.

Ваганні курса нацыянальнай валюты маюць самае прамое дачыненне да дабрабыту насельніцтва, паколькі гэты курс уплывае на цэны, перш за ўсё імпартуемых тавараў. Урад, паводле слоў яго кіраўніка, імкнецца спыніць неабгрунтаваны рост цэн. Зараз ужо праверана некалькі тысяч прадпрыемстваў, якім у выніку выстаўлена 27 мільярдаў штрафных санкцый, 488 службовых асоб пакараны за парушэнні ў цэнавай палітыцы. Два міністры атрымалі папярэджанні...

— Мы прымушаем вярнуць цэны да ўзроўню пачатку сакавіка. У прыватнасці, мы далі тэлеграму з патрабаваннем спыніць прыёмку прадукцыі на рэалізацыю з узнятымі цэнамі,— зазначыў кіраўнік урада.— Ніякага ажыятажу быць не павінна, ніякага абвальнага росту цэн не будзе. Урад гэта гарантуе. Не будзе і дэфіцыту прадукцыі — ёсць дзяржаўныя рэзервы, ёсць дастатковыя запасы ў гандлі. І акрамя таго назіраецца 10—30- працэнтны рост вытворчасці прадукцыі сельскай гаспадаркі.

Прэм'ер паабяцаў таксама жорсткімі адміністрацыйнымі метадамі спыніць спекуляцыйны продаж прадуктаў харчавання асобнымі грамадзянамі за межы краіны...

Такім чынам, кіраўнік Савета Міністраў рашуча заяўляе аб гатоўнасці ўрада неадкладна стабілізаваць сітуацыю з курсам і цэнамі, спыніць усякі ажыятаж.

Дарэчы, сітуацыю з валютным рынкам, цэнамі і захадамі ўрада і Нацбанка па яе стабілізацыі ўжо сёння будзе разглядаць прэзідэнт А. Лукашэнка, які абяцаў і магчымасць «кадравых рашэнняў» пры негатыўнай ацэнцы зробленага імі.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## СЦЕРАЖЫЦЕСЯ, АМАТАРЫ РАКАЎ ДА ПІВА!

**Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя па ўзгадненню з Міністэрствам юстыцыі выдадзены загад аб забароне на лоўлю ракаў.**

Як гаворыцца ў загадзе, у мэтах захавання колькасці даўгапалага рака і аховы яго ў перыяд размнажэння, на падставе артыкула 18 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове і выкарыстанні жывёльнага свету» з 15 сакавіка па 15 ліпеня 1998 года забараняецца прамысловая і аматарская лоўля даўгапалага рака на рыбагаспадарчых вадаёмах Рэспублікі Беларусь. Ракаў, якія трапляюць у сеткі падчас прамысловай лоўлі рыбы, прадпісваецца выпускаць у вадаём жывымі і непашкоджанымі.

У перыяд, забаронены для лоўлі рака, загадана таксама забараніць выкарыстанне на промысле ў возеры Алтушскім Маларыцкага раёна Брэсцкай вобласці, дзе найбольш значныя запасы доўгапалага рака, пастак усіх сістэм.

Нагадваем, што ўсе вышэйпералічаныя меры дзейнічаюць і ў дачыненні да забароны на лоўлю шчупака ў перыяд нерасту. Яна дзейнічае на прамысловую і аматарскую лоўлю шчупака ўсіх узроставых груп на рыбагаспадарчых вадаёмах Рэспублікі Беларусь з 1 сакавіка па 1 красавіка 1998 года. У перыяд забароны дазволены толькі адлоў вытворцаў шчупака для ўзнаўленчых мэтаў ва ўстаноўленым парадку.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ЮНЫЯ ЎГОНШЧЫКІ

Трагічнае здарэнне на аўтадарозе Бальчышка--Пелеса ў Воранаўскім раёне вывела супрацоўнікаў міліцыі на групу падлеткаў, якія ў Лідзе займаліся выкраданнем аўтамабіляў.

Усё пачалося з таго, што ў кювеце на гэтай аўтадарозе быў знойдзены аўтамабіль «Аўдзі-80» з целам 17-гадовага падлетка, які загінуў ад атрыманых раненняў пры аварыі. Крыху пазней высветлілася, што загінуўшы -- навучэнец лідскага ПТВ, а аўтамабіль знаходзіцца ў вышуку з 8 сакавіка гэтага года. Далей следства ўстанавіла, што навучэнец з'яўляецца членам групы, якая на працягу гэтага года выкрала ў горадзе тры аўтамабілі «Аўдзі-80», «Фальксваген-Пасат» і «Вольва-740». Між іншым, двое маладых злачынцаў, якіх узялі пад варту, таксама навучэнцы ПТВ.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## У МАСКВЕ БУДУЦЬ УСТАНОЎЛЕНЫ АЎТАМАТЫ ПА ПРОДАЖЫ ПРЭЗЕРВАТЫВАЎ

Яны з'явяцца да 1 мая ва ўсіх установах Масквы з кругласутачным і начным рэжымам работы.

Як паведаміў галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Масквы Мікалай Філатаў, гэтыя аўтаматы будуць устаноўлены ў туалетах казіно, дыскатэк, начных клубаў, салонаў іграявых аўтаматаў, рэстаранаў, кінатэатраў, аэрапортаў, вакзалаў, бензакалонак і г. д.

Апараты будуць закуплены за мяжой у «антывандальным» выкананні. Прадавацца ў іх будуць прэзерватывы, выпушчаныя ў падмаскоўным Серпухаве. М. Філатаў адзначыў, што да арганізацый, якія адмовяцца ўстанаўліваць гэтыя аўтаматы, санэпідслужба будзе прымаць жорсткія меры, аж да ініцыіравання канфіскацыі ліцэнзій.

**Інтэрфакс.**



## ГАНДАЛЬ СУСТРАКАЕ ПРАФЕСІЙНАЕ СВЯТА СТАРЫМІ ЦЭНАМІ

**Напярэдадні надыходзячага прафесійнага свята работнікаў гандлю, камунальнай гаспадаркі і бытавога абслугоўвання кіраўнікі двух буйнейшых міністэрстваў — міністр гандлю Пётр Казлоў і міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Барыс Батура — правялі ў Нацыянальным прэс-цэнтры сустрэчу з прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі. Зрэшты, святочная падстава была ў нейкай ступені фармальнай, бо гаворка падчас прэс-канферэнцыі вялася аб рэчах куды больш празаічных і будзённых, але ад гэтага не менш сур'ёзных.**

У прыватнасці, абодва міністры падвялі вынікі працы галін за мінулы год. Як адзначыў Барыс Батура, напрыканцы цяперашняга ацяпляльнага сезона ўжо можна з упэўненасцю казаць, што насельніцтва рэспублікі ў цэлым было здавальняюча забяспечана паслугамі жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Акрамя таго, гэты сезон не быў «азмрочаны» павелічэннем тарыфаў. Праўда, далей, хутчэй за ўсё, нас чакае паступовы рост цэн на паслугі жыллёва-камунальнай гаспадаркі. У прыватнасці, як адзначыў Барыс Васільевіч, унесены прапановы па заканчэнні ацяпляльнага сезона ўзняць тарыфы на ваду, каналізацыю і кватплату на 30 працэнтаў. «Мы лічым галоўнай задачай галіны выхад на бясстратнае фінансаванне, на поўнае пакрыццё затрат насельніцтвам. Так, пры павелічэнні тарыфаў на 30 працэнтаў узровень аплаты насельніцтвам вады і каналізацыі ўдасца давесці да 33—35 працэнтаў (зараз лічба складае 25 працэнтаў)». Зразумела, гэты працэс, адобраны ўрадам, будзе праходзіць паступова і, як падкрэсліў спадар Батура, з улікам росту даходаў насельніцтва.

Па словах міністра гандлю Пятра Казлова, за мінулы год галіна дасягнула пэўных поспехаў, хаця нельга забывацца і на адмоўныя моманты. Да першых кіраўнік міністэрства аднёс павелічэнне рэалізацыі ўсіх груп харчовых і нехарчовых тавараў і асабліва буйнагабарытных, што, на думку Пятра Афанасьевіча, сведчыць аб пэўным паляпшэнні пакупной здольнасці насельніцтва. За мінулы год палепшылася фінансавае становішча гандлю, зменшыліся неплацяжы, што дазволіла атрымаць звыш трыльёна рублёў прыбытку, заявіў спадар Казлоў. «У 1998 годзе мы будзем мець больш мінулагодняга на 104 працэнты харчовых тавараў, на 108,5 працэнта — нехарчовых і на 118 працэнтаў больш швейных і трыкатажных вырабаў».

Зразумела, адной з галоўных была тэма цэн на тавары пасля нядаўняга росту курса долара і сітуацыя з наяўнасцю іх у продажы. «Асноўная група тавараў — хлеб, малочныя вырабы, мясапрадукты, бакалея — у магазінах зараз ёсць», — запэўніў міністр гандлю. — Склаліся цяжкасці з мясам птушкі, свінінай і цукрам». Па словах Пятра Афанасьевіча, гэтыя праблемы цалкам вырашальныя. Так, ідзе закупка курыных кумпячкоў. Выправіць становішча са свінінай магчыма, калі з Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання будуць адрэгуляваны цэны. «Па цукру ўзніклі цяжкасці ў сувязі з ростам курса долара, аднак яго запасаў у гандлёвай сетцы хопіць на 22 дні бесперабойнага забеспячэння. Акрамя таго, у тры разы большыя, чым у гандлі, ёсць запасы на цукровых заводах. Для падстрахоўкі мы яшчэ заключылі кантракты на пастаўку цукру з Германіяй і Украінай», — паведаміў Пётр Казлоў.

Адносна цэн міністр гандлю сказаў літаральна наступнае: «Магу з поўнай адказнасцю заявіць, што пасля таго, як была разаслана тэлеграма міністэрства аб вяртанні цэн на ўзровень па стану на 1 сакавіка, два дні ў магазінах праводзіўся пералік». Інакш кажучы, цэны вернуты на ўзровень па стану на пачатак месяца. Як падкрэсліў Пётр Афанасьевіч, гэтая тэлеграма датычыць прадпрыемстваў як дзяржаўнай, так і недзяржаўнай формы ўласнасці. За выкананнем патрабавання аб вяртанні ранейшых цэн арганізаваны кантроль, і кіраўніцтва дзяржпрадпрыемстваў гандлю ў выпадку яго парушэння рызыкуе страціць пасады. Недзяржаўныя прадпрыемствы ў аналагічнай сітуацыі рызыкуюць страціць ліцэнзіі.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ПАВЕДАМЛЕННЕ

### Аб сярэднямесячнай заработнай плаце рабочых і служачых

Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь паведамляе, што сярэдняя налічаная заработная плата рабочых і служачых у лютым 1998 года склала 3.624.989 рублёў (у студзені 1998 года была 3.238.616 рублёў) і павялічылася ў параўнанні з лютым 1997 года ў 2,1 раза.

## ДАЎГІ БЕЛАРУСІ ЗА ГАЗ РАСТУЦЬ

Прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг паведаміў журналістам, што паступіў ліст ад кіраўніцтва расійскага «Газпрома» з папярэджаннем аб тым, што ў сувязі з ростам беларускіх даўгоў за газ магчыма памяншэнне яго паставак у нашу краіну на 30 працэнтаў.

— Калі гэта будзе зроблена, то мы таксама можам прыняць адпаведныя захады: і па прапампоўванню газу, і па прадпрыемствах, якія працуюць на давальніцкім газе,— зазначыў С. Лінг. Аднак у цэлым ён лічыць, што гэтая праблема будзе вырашана бесканфліктна падчас сустрэчы з кіраўніцтвам «Газпрама», на якой С. Лінг будзе настойваць.

Даўгі ж выраслі і па віне расіян, як лічыць беларускі прэм'ер. Паколькі расіяне аплачваюць пастаўкі беларускіх тавараў на 80 працэнтаў па бартэру, а не грашыма, пастолькі і беларусы не здольныя аплачваць расійскі газ валютай.

«Вы нас хоць распранайце, але валюты ў нас не хопіць для разлікаў, тавараў — хопіць, а валюты — не»,— зазначыў С. Лінг у сувязі з патрабаваннямі расійскага боку аплачваць газ на 70 працэнтаў валютай, а на 30 — таварамі. Летась аплата была ўсталявана наадварот: 70 працэнтаў таварамі, а 30 — грашыма. У выніку Беларусі ўдалося на 1 студзеня зменшыць свой доўг за газ перад Расіяй з 217 мільёнаў долараў да 95. Пры новых умовах разліку беларускі доўг зноў павялічыўся да 220 мільёнаў. Гэтая праблема, на думку С. Лінга, павінна быць адрэгулявана іначай, магчыма аплата 60 працэнтаў таварамі і 40 грашыма, або хаця б 50 на 50.

У любым выпадку беларускі бок будзе настойваць на ўрэгуляванні гэтай спрэчнай праблемы.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ІВАН РЫБКІН ПРЫБУДЗЕ Ў МІНСК

Віцэ-прэм'ер расійскага ўрада Іван Рыбкін прыбудзе ў Мінск 23 сакавіка. Як паведамляюць расійскія сродкі масавай інфармацыі, мэта гэтага візіту — узгадніць дату правядзення саміта кіраўнікоў дзяржаў—удзельніц СНД.

**БЕЛТА.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 19 САКАВІКА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Абсалютбанк | 41000 | 43000 | 22400 | 23500 | 6700 | 7000 | 263-6080 |
| Белкамбанк | 42000 | 43000 | 23000 | 23500 | 6900 | 7100 | 226-0992 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 33400.00 | | 18255.36 | | 5490.00 | | Курс на 20.03.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.0940 | | 3.3350 | | 10000 BLR - 1.1630 | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галоўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| пазабіржавы міжбанкаўскі курс | 53000 | 54000 | 29014 | 29569 | 8710 | 8876 | |

